

Газета заснавана ў 1938 годзе. Адноўлена ў 1997 годзе.



# Газета Слонімская

№32 (218). 9 — 15 жніўня 2001г. Масава-палітычны штотыднёвік http://gs.promedia.minsk.by Кошт 170 руб.



## СЛОНІМ НАВЕДАЎ ПРЭМ'ЕР-МІНІСТР І ШМАТ ЧАГО ПААБЯЦАЎ

**2 жніўня прэм'ер-міністр Беларусі Уладзімір Ярмошын з рабочым візітам наведаў Слонім. Разам з ім у наш горад прыехалі міністр сельскай гаспадаркі і харчавання Міхаіл Русы і старшыня Гродзенскага аблвыканкама Уладзімір Саўчанка.**

Візіт прэм'ера адбываўся па загадзя запланаванаму сцэнарыю. Спачатку госці наведалі кардонна-папяровы завод "Альбярцін", дзе спадар Ярмошын паабяцаў вырашыць пытанне наконт выдзялення прадпрыемству валютнага крэдыту для набыцця новага абсталявання. Пасля прэм'ер-міністра чакалі ў Слонімскай аграпрамтэхніцы і ў калгасе імя Суворава. Тут ён азнаёміўся з сельскагаспадарчай тэхнікай, цікавіўся ходам уборкі збожжавых. Спадар Ярмошын сказаў, што Лідскі завод можа выпусціць дадаткова 50 камбайнаў для Слонімскага раёна. Праўда, за тэхніку пазней прыйдзецца разлічыцца.

Як ні дзіўна, але ў план візіту прэм'ер-міністра не ўваходзілі Жыровічы, якія ніколі не мінаў Аляксандр Лукашэнка. Тым не менш, за некалькі дзён да паездкі на Слонімшчыну прэм'ера, ад урада Беларусі Жыровіцкі манастыр атрымаў у падарунак грузавы аўтамабіль і збожжаўборачны з кормаўборачным камбайны.

Апошнім акордам візіту Уладзіміра Ярмошына на Слонімшчыну было наведванне мясакамбіната і магазіна "Лета". Дырэктару мясакамбіната Алегу Бярдулу было што паказаць прэм'еру і чым пахваліцца. Як-ніяк, а камбінат працуе, выпускае мясныя і каўбасныя вырабы, а рабочыя атрымліваюць заробак. Ды і прырост таварнай прадукцыі сёлета склаў на прадпрыемстве больш за 100%.




*Старшыня Слонімскага гарвыканкама Алег Лакцюшын, прэм'ер-міністр Беларусі Уладзімір Ярмошын і старшыня Гродзенскага аблвыканкама Уладзімір Саўчанка*

Недалёка ад магазіна "Лета", на месцы былога салдацкага кафэ, у дзень свайго візіту Уладзімір Ярмошын адкрыў новы рэстаран "Паланэз". Гэта ўласны рэстаран мясакамбіната. І назва добрая — "Паланэз". Так і просіцца дабавіць "Паланэз Агінскага". Ці будзе гэты музычны твор нашага земляка гучаць у рэстаране для наведвальнікаў — пакажа час. Але, што мясакамбінат — адно з багатых прадпрыемстваў горада, слонімцам вядома. А вось праз вуліцу ад "Паланэза" знаходзіцца яшчэ адно буйное прадпрыемства Слоніма — аўтарамонтны завод. Няхай бы туды заглянуў прэм'ер і пацікавіўся: сколькі там атрымліваюць рабочыя, як жыве завод, якія ў яго праблемы? А можа што б і дапамог. Ці заехаў бы на фабрыку мастацкіх вырабаў, на мэблевую фабрыку, фабрыку гасцінных мэблі і на іншыя прадпрыемствы. Не выпадкова ў час гутаркі са слонімцамі каля "Паланэза", Уладзіміру Ярмошыну пенсіянеры казалі, што жывецца добра, а вось больш маладшыя слонімцы прасілі ў Ярмошына працы. А няма працы — няма і грошай. Вось і паспрабуй пажыві, пракармі сёння сям'ю. І ў "Паланэз" не будзе за што схадзіць. Выдатны твор кампазітара прыйдзецца слухаць дома. Што і робяць сёння сотні слонімцаў.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

ЗДАРЭННІ

## КАМБАЙН АДАРВАЎ МУЖЧЫНУ НАГУ

**У калгасе "Рассвет" Зэльвенскага раёна падчас уборкі збожжавых 50-гадовы механізатар пакалечыў нагу. Мужчына спрабаваў нагой прапіхнуць збожжа ў бункеры камбайна, але атрымалася няўдала: нагу захапіў выгрузны шнэк.**

У выніку, атрымаўшы сур'ёзную траўму, камбайнер быў дастаўлены ў Зэльвенскую бальніцу. Яму ампутавалі ніжнюю канечнасць левай нагі. Як сказаў галоўны ўрач Зэльвенскай райбальніцы Андрэй Фрэйберг, хворы яшчэ некалькі тыдняў будзе праходзіць курс лячэння, а праз шэсць месяцаў нагу пратэзіруюць. Атрымаўшы інваліднасць, калгаснік ужо не зможа працаваць механізатарам.

## БАБУЛЯ ЎПАЛА Ў КАЛОДЗЕЖ

**У вёсцы Новая Перавалока Слонімскага раёна пенсіянерка ўпала ў калодзеж.**

Яе выратавалі супрацоўнікі МНС (міністэрства па надзвычайных сітуацыях). Бабуля не атрымала ніякіх пашкоджанняў і ад медыцынскай дапамогі адмовілася.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## ІДЗЕ ЖНІВО

**Уборку збожжавых у нашай краіне апошнія гады называюць ніянакш, як бітвай за ўраджай. Хаця ідзе штогод не бітва, а звычайная сезонная сялянская праца.**

Ды і ўраджаю таго не хапае, каб рэспубліка цалкам магла забяспечыць сябе хлебам. Сёлета, па прагнозах спецыялістаў Мінсельгасхарчу, па Беларусі чакаецца ўраджай збожжавых не меней 7 млн. тон, у сярэднім, каля 26 цэнтнераў з аднаго гектара. Гэта калі не ўлічваць страты, якія пры традыцыйнай арганізацыі ўборачнай кампаніі могуць дасягнуць 1 млн. тон. Для параўнання, тона пшаніцы каштуе 100 даляраў ЗША. І высакаякасныя гатункі пшаніцы даводзіцца потым дакупляць за мяжой.

Каб скараціць да мінімуму страты пры ўборцы, існуе некалькі спосабаў. Асноўны — тэхнічны — правільная рэгуліроўка камбайнаў. Але тыя старэнькія "Нівы", "Каласы" і паходжаныя "Доны", якія складаюць аснову камбайнавага парку Беларусі, як правіла, ужо выпрацавалі свой мотарэсурс і не вельмі паддаюцца рэгуліроўцы.

(Працяг на 2 стар.)




## У СЛОНІМЕ ІСНУЕ НЕБЯСПЕКА ЗАХВАРЭЦЬ СНІДАМ

**На чарговым пасяджэнні міжведамаснага савета па прафілактыцы ВІЧ-інфекцыі, венерычных захворванняў і туберкулёзу Гродзенскага аблвыканкама работа Слонімскага раённага міжведамаснага савета па прафілактыцы вышэй названых хвароб прызнана нездавальняючай.**

Разглядаючы гэтае пытанне, спецыялісты прыйшлі да высновы, што на Слонімшчыне склалася дрэннае становішча па прафілактыцы хваробы XXI стагоддзя — ВІЧ-інфекцыі.

Своечасова не плануецца работа па прафілактыцы захворванняў ва ўстановах культуры раёна, аддзеле грамадска-палітычнай інфармацыі Слонімскага райвыканкама, аддзеле па рабоце з моладдзю гарвыканкама і г.д.

Дарэчы, на сённяшні дзень у Слоніме ўжо зарэгістравана шэсць выпадкаў ВІЧ-інфекцыі. Аб гэтым карэспандэнту "ГС" паведаміў галоўны ўрач Слонімскага раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі Анатоль Цепін.

**Сяргей ЧЫГРЫН**



## ПРОГНОЗ по Гродненской области ПОГОДЫ

**9-10 АВГУСТА**

Переменная облачность, кратковременные дожди, местами грозы, ветер южный 4-9 м\с, днем при грозах порывы 15-20 м\с. Температура воздуха ночью +12+17, днем +19+24.

Облгидрометеоцентр

# ІДЗЕ ЖНІВО

(Працяг. Пачатак на 1 стар.)

Новых жа камбайнаў, у тым ліку замежных "Клаасаў", "Кейсаў" і "Бізонаў" у аграпрамысловым комплексе краіны вельмі мала, бо каштуюць яны для нашых сельгасгаспадарак занадта дорага. Таму, каб скараціць страты, улады больш выкарыстоўваюць арганізацыйны спосаб: наладжваюць спаборніцтвы паміж камбайнерамі і вадзіцелямі на жніве з матэрыяльным стымулам пераможцам, стварылі пры арганізацыях, якія абслугоўваюць аграрны сектар, 127 мехатрадаў (накшталт даўнейшых МТС). Аднак, як паказвае практыка, пры такіх "сацспаборніцтвах" камбайнер за карацейшы час імкнецца больш намалаціць і тым самым больш зарабіць, не вельмі пры гэтым дбаючы пра якасць абмалоту. Калі надвор'е спрыяе ўборцы, то тэрміны жніва сапраўды скарачаюцца за кошт самаадданай працы камбайнераў, і спаборніцтвы паміж імі іграюць тут пэўную ролю. Тым не менш, частка збожжа, якое не апала долу з-за перастою, застаецца пры спешнай працы на паношанай тэхніцы ў абмалочанай саломе. Што датычыцца мехатрадаў, якія ўкамплектаваны больш новай тэхнікай, чым калгасы, то, пры своечасовым і належным выкарыстанні, яны павінны адыграць на жніве станоўчую ролю. Калі параўноўваць уборку ў розных рэгіёнах Беларусі, то яе тэрміны расцягваюцца ў часе на некалькі і больш тыдняў. У Гродзенскай і Брэсцкай абласцях жніво пачынаецца раней і раней заканчваецца, чым, скажам, у Віцебскай і Магілёўскай. Там уборка часам цягнецца да самай восені, і камбайнавыя "дэсанты" з паўднёва-заходніх абласцей накіроўваюцца туды на дапамогу. Пры наяўнасці ж на месцах арганізаваных мехатрадаў, яны якраз і павінны замяніць тыя не вельмі эфектыўныя і несвоечасовыя (бо прыязджаюць, калі ў сваім калгасе сажнуць) "дэсанты".

Тым часам жніво працягваецца.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

### ХОД УБОРКІ ЗБОЖЖАВЫХ І ЗБОЖЖА-БАБОВЫХ НА СЛОНІМШЧЫНЕ ПА СТАНУ НА 7.08.2001Г.

| Гаспадарка | Скошана (га) | да плана (%) | ураджайнасць (ц/га) |
|---|---|---|---|
| 1. "Міжэвічы" | 823 | 51 | 22,7 |
| 2. "Рассвет" | 552 | 53 | 22,9 |
| 3. "Чырвоны партызан" | 1062 | 64 | 29 |
| 4. "Прагрэс" | 780 | 63 | 29,3 |
| 5. імя Леніна | 790 | 46 | 24,9 |
| 6. "Дружба" | 755 | 63 | 29,3 |
| 7. імя Дзяржынскага | 1493 | 92 | 31,9 |
| 8. "Перамога" | 711 | 47 | 25,1 |
| 9. імя Суворава | 1106 | 79 | 35,7 |
| 10. "Кастрычнік" | 155 | 18 | 32,7 |
| 11. "Уперад" | 378 | 24 | 22 |
| 12. "Чырвоная зорка" | 245 | 37 | 20,7 |
| 13. 1 Мая | 2003 | 83 | 29,4 |
| 14. "Навадзевяткавічы" | 781 | 54 | 21,6 |
| 15. "Пераможац" | 840 | 49 | 22,5 |
| 16. "Шылавічы" | 185 | 19 | 17,8 |
| 17. АГФ "Шчара" | 670 | 54 | 22,4 |
| 18. "Сасноўка" | 650 | 34 | 23,9 |
| 19. Жыровіцкая сорта-выпрабавальная станцыя | 191 | 36 | 31,3 |
| Па раёну | 14170 | 54 | 27,1 |

# ПРОМОРГАЛИ — НЕ ДОГОНИШЬ

**Сегодня служба быта оказалась в глубоком кризисе. Только по Гродненской области количество мастерских, ателье, цехов за 10 лет сократилось на 28,3%, приемных пунктов — на 38,6%. Объем бытовых услуг населению в сопоставимых ценах по отношению к 1990 году уменьшился в 5 (!) раз. Убыточность в работе допустили 18 из 35-ти предприятий службы быта, то есть 51%. Убытки от их деятельности составили 123 миллиона рублей.**

Причина такого плачевного положения в отрасли — потеря оборотных средств, неумение прогнозировать спрос на услуги, непредприимчивость и неразворотливость руководства.

"Лежит" сегодня и Слонимский быткомбинат. Хотя по выполнению плановых показателей, а они к уровню прошлого года выполнены на 94%, все вроде бы складывается неплохо. Есть и рост доходов от оказанных бытовых услуг. В феврале их выполнено на 6,8 миллиона рублей, а в июне — на 8,2 миллиона. Это при том, что летом обычно отмечается наибольший спад доходов, так как наибольший объем услуг оказывается в осенне-зимний период.

В целом же, — отмечает директор Слонимского быткомбината Станислав Иванашко, — спрос на наши услуги падает. Все-таки не так уж и богато живут сегодня люди. И деньги, в первую очередь, идут на продукты питания. Недавно в Мижевичах на сессии сельского совета рассматривался вопрос торговли и бытового обслуживания. За первое полугодие товарооборот там составил 82 миллиона рублей. Из них, от реализации промтоваров — на 2 миллиона, за выполненные бытовые услуги — тоже на 2 миллиона. Получается соотношение 20 к 1.

Да, сегодня быткомбинат оказывает услуг меньше, чем 10 лет назад.

Как положительный результат работы Слонимского быткомбината можно отметить, что по району восстановлены практически все комплексные приемные пункты (КПП). Но большинство из них убыточные. Да и работают они по три дня в неделю. Соответственно, и зарплата у приемщиков не превышает 30 тысяч рублей. В целом же по быткомбинату заработная плата составляет около 50 тысяч — самый низкий показатель по городу.

Сокращаются производственные площади комбината. Здание вязального цеха на улице М.Горького передано налоговой полиции, здание бывшего клуба и цеха трикотажных изделий на улице Я.Купалы решением гори райисполкомов передано в ведение отдела народного образования. Цокольный и первый этажи здания самого быткомбината теперь принадлежат частному предпринимателю Адамчуку. Там те же парикмахерская и фотоателье, но только более современные, технически переоснащенные и с более высоким качеством обслуживания.

— Если бы мы начали соревноваться с Адамчуком на самых первых порах, когда он только начинал свое дело, возможно все было бы иначе, но ..., — рассказывает Станислав Иванашко. — Не было у быткомбината на тот момент средств на внедрение современной технологии. А кредиты убыточному предприятию никто бы не дал. Проморгали ...

"Лежащие" предприятия обычно ждут помощи от родного государства. Но, по словам директора Слонимского быткомбината, большой помощи ждать не приходиться. Предоставляемые налоговые льготы настолько минимальны, что о них и речь не стоит вести. Приходится своими силами выходить из создавшегося положения.

— Остается сжимать все, что осталось, в кулак, — говорит образно о своих планах на будущее Станислав Иванашко. — Концентрировать внимание на основном производстве, цехе масспошива. Не использованы также еще все возможности столярного, мебельного цехов. Постоянно находимся в поиске новых рынков сбыта нашей продукции.

Планы, конечно, планами. Но опыт показывает, что в руках частных предпринимателей убыточные еще вчера госпредприятия приносят прибыль, улучшается при этом качество и продукции, и обслуживания.

**Валерий КОВАЛЕНКО**




*На втором плане предпринимателю Анатолию помогают освободить руку*

# ХОРОШО, что хорошо закончилось

**33-летнему слонимскому предпринимателю Анатолию К. зажало руку в редукторе. Случилось это 1 августа на территории гаража местного быткомбината, когда он ремонтировал автомобиль МАЗ.**

Прибывшие на помощь спасатели пожарной части №1 г. Слонима при помощи специального приспособления освободили руку потерпевшего из железных тисков. Мужчина отделался легким испугом, рука не пострадала.

**Ольга ШИНКЕВИЧ**

ЗДАРЭННІ

## СУІЦЫД У ВОСТРАВЕ

**Пакончыла жыццё самагубствам 43-гадовая жыхарка вёскі Вострава Слонімскага раёна.**

Яе знайшлі павешанай у хляве.

## КРАДУЦЬ ГРОШЫ

**У аднаго з жыхароў вёскі Дзераўная злодзей украў 100 тысяч рублёў.**

А ў вяскоўца з Жыровіч зніклі з хаты 200 тысяч рублёў. Вядзецца праверка.

## ЗНІК ВІДЭАПЛЭЙЕР

**У піянерскім лагеры "Вясёлка" быў украдзены відэаплэйер.**

Міліцыя злодзея затрымала.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

# УБИЙЦА ВРАЧА осуждена на 15 лет

**В Гродно завершился судебный процесс по делу об убийстве 10 марта нынешнего года врача Гродненской областной клинической больницы.**

Обвиняемой в этом преступлении, 18-летней жительнице деревни Першаи Воложинского района Минской области Светлане Ивашко Гродненский областной суд вынес наказание в виде лишения свободы сроком на 15 лет в колонии строгого режима с конфискацией имущества.

Убийство девушка осуществила в собственном гараже врача после совместного употребления спиртных напитков. Она несколько раз ударила мужчину бутылкой по голове, а потом задушила галстуком. Из гаража преступница вынесла швейцарские часы, портмоне, сотовый телефон, магнитолу, аудиокассеты. На суде Светлана Ивашко объяснила свои действия тем, что вынуждена была защищаться. Однако суд счел эти объяснения необоснованными и решил, что они противоречат доказательствам, полученным в ходе следствия. В результате 18-летняя девушка была осуждена по трем статьям Уголовного кодекса Беларуси: "насилие с целью завладения имуществом с нанесением тяжелых телесных повреждений", "кража официальных документов" и "умышленное убийство, сопряженное с разбоем".

**Павел МОЖЕЙКО**

НАВІНЫ

## 40-ГРАДУСНЫ ПАДАРУНАК З МІНУЛАГА

**Незвычайны скарб знайшоў слонімец Аркадзь у склепе свайго дома, які ён купіў не так даўно. Не, гэта быў не збанок з залатымі манетамі, а ... 13 бутэлек гарэлкі.**

Гарэлка была выраблена ў 1986 годзе Слонімскім вінзаводам. Відаць, былыя гаспадары дома, хаваючы "Рускую" ў склепе, спрабавалі такім чынам частку сваіх даходаў выратаваць ад інфляцыі.

Але мінуў час, і людзі проста забыліся пра свой скарб. А новы гаспадар дома ўжыў палову скарбу разам з сябрукамі, якія засталіся задаволены смакавай якасцю прадукта.

**Валерый КАВАЛЕНКА**

## СВАБОДНЫ ПРАФСАЮЗ СУДЗІЦЦА

**Свабодны прафсаюз сумеснага беларуска-германскага прадпрыемства "Самана Плюс", што ў Мастах, працягвае змагацца за тое, каб паставіць на ўлік сваю арганізацыю ў мясцовых органах улады.**

Райвыканкам пад надуманымі прычынамі ўжо двойчы адмаўляў ім, спасылаючыся на недакладнасць юрыдычнага адрасу. Пасля апошняй адмовы кіраўніцтва Свабоднага прафсаюза звярнулася ў суд на незаконныя дзеянні мастоўскіх уладаў. Адбылася папярэдняя кансультацыі ў судзе Мастоўскага раёна. У іх удзельнічалі старшыня суда Галіна Грудская, кіраўнік абласной арганізацыі Свабоднага прафсаюза Аляксандр Чарней, кіраўнік арганізацыі Свабоднага прафсаюза Валерый Яраменчук і юрыст райвыканкама. У выніку гэтых перамоў ад Свабоднага прафсаюза была запатрабавана яшчэ адна паперка. Чым надалей скончыцца справа — невядома.

## АДАМУ ПАВЕСІЛІ "ЧЫРВОНУЮ ЗОРКУ"

**Хуткімі тэмпамі працягваецца аб'яднанне калгасаў на Мастоўшчыне.**

Да калгаса імя Адама Міцкевіча далучаны нерэнтабельны калгас "Чырвоная зорка". Гэта другое ўзбуйненне гаспадаркі. Год назад да яго быў далучаны калгас "Прагрэс".

## МІЛІЦЫІ — ПЯЦЬ ЛІТРАЎ

**У цяжкае становішча пастаўлены супрацоўнікі мастоўскай міліцыі.**

З аднаго боку кіраўніцтва ад міліцыянераў патрабуе эфектыўнай працы і выканання паказчыкаў, а з другога — на адну міліцэйскую машыну на суткі адпускаецца пяць літраў паліва. Не кожнаму патрулю ўдаецца даехаць да месца здарэння.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

## РАНЕЙ БІЛІ ШЫБЫ, ЦЯПЕР ЛАМАЮЦЬ СКІВІЦЫ

**Традыцыйны спосаб біцця шыбаў рабочымі ААТ "Мастоўдрэў" пры атрыманні заробку змяніўся на ламанне сківіц суседзям па чарзе.**

Гэтым разам была выплата заробку за травень. Жаданне людзей атрымаць заробак было настолькі вялікім, што адбылася чарговая цісканіна, пасля чаго маладыя рабочы К. звярнуўся ў лякарню. Дактары паставілі дыягназ: пералом сківіцы.

**Антон МАКЕЙ**

ПОШТА

## Отдых — наша забота

**В последние годы основным центром отдыха горожан в летнее время становится озеро в районе Лобазовки.**

Широкое водное пространство, удобство подъезда не только на личном транспорте, но и городском, способствуют благоприятному отдыху жителей и гостей нашего города. К сожалению, здесь так и не появились точки продажи прохладительных напитков, пункт проката, а, самое главное, условий безопасного отдыха — оборудованного места купания, поста спасения и всего, что необходимо для оказания помощи на воде, хотя разговор об этом и вставал на одной из сессий городского Совета депутатов. Да, тогда предполагалось, что сферу обслуживания возьмёт на себя один из предпринимателей. Но всё так и осталось, дело не пошло, ничего не изменилось. Под своё крыло отдых на озере должна взять городская власть. Ведь только городские структуры могут найти средства и возможности для создания полноценного отдыха своих же граждан. Даже если деньги на это сегодня найти будет трудно, то в бюджет следующего года они обязательно должны быть заложены депутатами, так как даже одна человеческая жизнь стоит значительно больше любых денежных сумм. Значит, с этим уйдёт и расхожая поговорка, что спасение утопающих — дело рук самих утопающих. Нет — это забота наша, а, значит, государственная.

**Виктор ГЕРАСИМЧИК,**
депутат Слонимского городского Совета депутатов

## Остановка и стоянка запрещены?

**По улице Чкалова, напротив центрального административного здания и проходной мясокомбината, стоит дорожный запрещающий знак 3.27, который гласит: "Запрещается остановка и стоянка транспортных средств". Но на протяжении всего рабочего дня под этим знаком постоянно стоит с десяток одних и тех же иномарок, которые затрудняют ход движущегося транспорта.**

В зоне действия этого знака дорога очень узкая: с одной стороны — глубокая канава, а с другой — иномарки. А автомобили, в основном, проходят здесь большегрузные, не говоря уже о городском транспорте, и разминуться бывает довольно сложно, особенно в зимний период, в гололёд. Зачем тогда построили автостоянку, за которой в кустах по этой улице очень часто дежурят сотрудники ГАИ с радаром? Останавливая для проверки проходящие автомобили, они почему-то не замечают стоящие иномарки в зоне запрещающего знака. А ведь ответственность за нарушение правил дорожного движения для всех должна быть одна!

Хочется надеяться, что наше Слонимское ГАИ сделает вывод насчёт запрещающего знака 3.27 по улице Чкалова, возле проходной мясокомбината.

**Водитель-профессионал С.С.Н.,** г. Слоним

**АД РЭДАКЦЫІ.** Як паведаміў карэспандэнту "ГС" намеснік начальніка Слонімскай ДАІ Аляксандр Бандарэнка, супрацоўнікі ДАІ ўзмоцняць нагляд за рухам транспарту ў гэтым раёне і ў тым ліку за выкананнем прадпісання знака 3.27 "Забараняецца прыпынак і стаянка транспартных сродкаў".

## Паўвекавы юбілей

**31 жніўня бягучага года спаўняецца 50 гадоў гэтаму фотаздымку, зробленаму ў двары рамесленага вучылішча №19 г.Слоніма ў 1951 годзе.**

У гэты дзень мы атрымалі атэстаты аб заканчэнні вучылішча, атрымалі пуцёўку ў жыццё. Паступілі мы на вучобу ў верасні 1949 года, а заняткі пачаліся 1 кастрычніка. У вучылішчы мы знаходзіліся на поўным дзяржаўным забеспячэнні: трохразавае харчаванне, форменнае адзенне (зімовае і летняе, працоўнае і выхаднoe) і абутак. І да ўсяго — амаль вайсковая дысцыпліна. Былі мы таксама забяспечаны ўсім неабходным для вытворчага навучання інструментам, падручнікамі і вучэбнымі дапаможнікамі.

Здарылася так, што пасля 31 жніўня 1951 года за намі, групай з 25-ці чалавек, не прыехаў прадстаўнік завода. У выніку, мы жылі ў вучылішчы на поўным забеспячэнні аж да 25 верасня, пакуль, нарэшце, за намі не прыехаў "купец" з Калінінграда.

У той далёкі год вучылішча скончылі 100 чалавек: 50 слесараў-аўтарамонтнікаў і 50 сталяроў. 25 сталяроў паехалі працаваць у Калінінград, куды астатнія — не ведаю.

У вучылішча мы паступалі ўсе добраахвотна: пісалі заявы, здавалі ўступныя экзамены — усё як належыць. Усе, хто паступаў у той час у вучылішча, ведалі, што існуе пастанова Вярхоўнага Савета СССР ад 19.06.1947г. аб прымусовай адпраўцы моладзі ў гарнарудныя вучылішчы Саюза. Таму і ішлі дабраахвотна ў рамеснікі.

Я звяртаюся да выпускнікоў 1951-га: прыйдзіце 31.08. 2001г. у 12-00 у двор вучылішча. У каго захаваліся фотаздымкі тых часоў, захапіце іх з сабой.

Да сустрэчы праз паўвека.

**Іван Фёдаравіч БЫКАЎ,**
выпускнік групы сталяроў 1951г.



*Чацвёртая група рамесленага вучылішча №19 г.Слоніма. 1949-51гг.*

ФЕЛЬЕТОН

# РУКІ ПРЭЧ АД ЦЁТКІ

Банкет быў шыкарны: елі катлеты з хлебам і запівалі гарэлкай пад рамантычнай назвай "Беларусь сінявокая". Прычына гулянкі не абы якая: бацька Міхася Куціка за сто грамаў гарэлкі купіў у знаёмага сабаку, які насабачыўся добра пасвіць каровы.

Пад дахам забягалаўкі пасядзелі цудоўна, але пара было і па хатах. Міхась накіраваўся ў вёску Забэцькі, дзе здымаў кватэру на перыяд збору смалы для хімлясгаса, а бацька са знаёмымі пайшлі сваёй дарогай.

Крочыў сабе Міхась між шырокіх палёў, дыхаў водарам траў, шчодра выдыхаючы вінныя пары. І дайшоў бы да месца, калі б не злы выпадак. Праз невялікі прамежак часу замест гаспадарскіх пухавікоў ён ляжаў на бальнічнай кушэтцы, а медыцынскія работнікі змазвалі лякарствам сінякі і драпіны. А потым павезлі Міхася ў міліцыю, і той паўстаў перад светлымі вачамі работнікаў Дзяржаўтаінспекцыі. Справа ў тым, што пацярпеўшы канстатаваў: яго збілі "Жыгулі" светлага колеру. І дакладна назваў нумар машыны.

Аўтаінспектары кінуліся да картатэкі. Некалькі гадзін напружанай працы вынікаў не далі. Жыгулі з такім нумарам нібы ўпалі з неба і зноў туды вярнуліся.

На двары стаяла глыбокая ноч. Горад адпачываў, а работнікам аўтаінспекцыі было не да адпачынку. Трэба было шукаць бязжаласнага злачынцу, што збіў чалавека і знік з месца здарэння. Гледзячы на ўпрыгожаны сінякамі твар Міхася Куціка і слухаючы яго наконт "Жыгулёў", якія спачатку былі светлага колеру, а потым чамусьці нечакана пазелянелі, работнікі міліцыі пачалі думаць: а ці не вешае ім Куцік лапшу на вушы? Можа тут і не было ніякай аварыі і "Жыгулёў", што па незразумелых прычынах пачалі раптам мяняць колер? Строга запыталі аб гэтым у пацярпеўшага.

— Не было, — цяжка ўздыхнуўшы, прызнаўся ён.

А было вось што. Як след выпіўшы за сабачае шчасце, Міхась валокся адпачываць. Раптам на дарозе яму сустрэліся два п'яныя сябрукі. Пачалася гаворка на злабадзённую тэму: дзе б яшчэ дабавіць. У сябрукоў не было грошай на выпіўку, і яны вырашылі схадзіць у суседнюю вёску Даўбешкаўцы, пазычыць у знаёмых. Ды нечакана перадумалі.

— Ну іх з грашыма і з гарэлкай, — сказаў адзін. — Ты, Міхась, лепш парай нам, дзе цёплую дзеўку знайсці, каб ноччу сагрэла. Ведаеш такую?

Куцік, нібы жорнамі, цяжка варочаў мазгамі. І нарэшце выдаў:

— Ведаю! Жыве яна ў Забэцьках... І дакладна паведаміў адрас "цёплай дзеўкі", на якую быў попыт. Пра гэта ведаў кожны паважаючы сябе мужчына ў ваколіцы.

— Ах ты, смальняк яловы! — ускіпеў раптам адзін з сябрукоў. — Ды ці ведаеш ты, паршывец, што гэта мая цётка. Родная кроў, можна сказаць.

— Рукі прэч ад цёткі! — залемантаваў другі сабутэльнік і, растапырыўшы рукі, пайшоў на Куціка.

Сябрукі стаўклі небараку на горкі яблык і кінулі ў прыдарожны авёс. На двары яшчэ было светла, але ад усяго выпітага і перажытага на Міхася раптам напаў сон. Ён і паддаўся спакусе. А калі прачнуўся, то пайшоў на кватэру. Там гаспадары падзівіліся, хто гэта наставіў яму пад вочы супроцьтуманных ліхтароў і выклікалі "хуткую дапамогу".

Да гэтага часу Міхась ніяк не можа зразумець, за што яго пабілі.

— Яны спыталі, я сказаў, — мармыча ён сабе пад нос. — Хіба ж я ведаў, што гэта цётка...

Небарака жыве з цвёрдым пераканаццем, што за дабро караюць.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**




НАВІНЫ

## У ДАКТАРОЎ БУДУЦЬ НОВЫЯ ХАЛАТЫ

**Па распараджэнню намесніка старшыні Мастоўскага райвыканкама Таісіі Мурынай, мясцовы камбінат бытавога абслугоўвання пачаў шыць новыя халаты для хірургаў.**

Пра бядотны стан беларускай медыцыны кажуць усе. Канкрэтныя крокі ў гэтым накірунку нядаўна зрабіў загадчык хірургічнага аддзялення Мастоўскага ТМА Тадэвуш Рум. Ён паказаў прадстаўнікам улады, у якіх халатах яго падначаленыя праводзяць аперацыі. Гэта ўразіла Таісію Мікалаеўну, і яна адразу распарадзілася, каб становішча было выпраўлена. На наступны дзень адразу ў пральні сястру-гаспадыню хірургічнага аддзялення сустрэлі два працаўніка з камбіната бытавога абслугоўвання, і яны тут жа ўзялі для ўзору форму халата. Засталося пачакаць, калі халаты будуць пашытыя.

## ХТО ПЕРАМОЖА Ў СПРАВЕ СЕРАДЫ?

**Следства адносна начальніка Мастоўскай рыбаахoвы Алега Серады прыпынена, паколькі па гэтай справе праходзіць тэхнічная экспертыза і праводзіцца яна ў Мінску.**

Нагадаем, што начальнік рыбааховы Алег Серада з двума егерамі быў затрыманы супрацоўнікамі Мастоўскага РАУС за незаконны лоў рыбы падчас нерасту. Як ужо паведамляла "ГС", пры затрыманні было канфіскавана болей 200 кг рыбы, а агульная сума штрафу склала каля паўтара мільёна рублёў. Факт браканьерства таго, хто павінен ахоўваць прыроду, быў настолькі відавочны, што ніхто з мастачан не сумняваўся ў правільнасці затрымання Алега Серады і яго напарнікаў. У тым усумнілася следства, і яно доўжыцца ўжо тры месяцы.

У першы дзень пракурор раёна Юрый Васілеўскі даў папярэднюю згоду пра неабходнасць арышту парушальнікаў закона. На наступны дзень адмовіў. На міліцыянераў, якія праводзілі затрыманне, пайшлі рапарты ў кіраўніцтва міністэрства ўнутраных спраў. Затым справу накіравалі для азнаямлення ў Гродна. Пасля вяртання, яе прыпынілі, і нейкія таемныя матэрыялы накіравалі ў Мінск на тэхнічную экспертызу. Як сцвярджаюць жартаўнікі-міліцыянеры, "відаць косткі тае рыбы, якую з'елі жыхары вёскі Масты Правыя, што 2 траўня неспадзявана для сябе набылі ў тутэйшай краме".

На сённяшні дзень Алег Серада застаецца начальнікам інспекцыі рыбаахoвы на Мастоўшчыне.

## АЛЯКСАНДРУ РЫГОРАВІЧУ — "ПАШАНА"

**Нягледзячы на шматлікія за апошнія месяцы чуткі аб адстаўцы старшыні мастоўскага райвыканкама Аляксандра Рыгоравіча Кісялёва ў сувязі з расфармаваннем раёна, Прэзідэнт РБ Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка ўзнагародзіў яго ордэнам Пашаны.**

У сваім указе кіраўнік дзяржавы адзначыў вялікія заслугі старшыні райвыканкама ў развіцці раёна. Мясцовыя людзі помняць поспехі Кісялёва. Такія, як правядзенне рэспубліканскага фестывалю "Дажынкі-97" у Мастах і пабудову ўласнага катэджа, у які ён засяліўся напярэдадні ўручэння ўзнагароды.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

# ПРЫНЯЛІ ПРЫСЯГУ на вернасць Айчыне

**Ва ўзброеных сілах Беларусі прайшло прыняцце воінскай Прысягі. У гэтым годзе, загадам міністра абароны, маладыя воіны прысягалі на вернасць Айчыне на месцах баявой славы.**

У Слоніме гэтае свята адбылося каля помніка загінуўшым абаронцам, што на вуліцы Пушкіна. 214 воінаў 11-й механізаванай брыгады прынялі Прысягу ва ўрачыстай абстаноўцы. Прысутнічалі пры гэтым і бацькі маладых салдатаў, і кіраўнікі горада, і простыя сланімчане.

Цяпер хлопцы афіцыйна сталі абаронцамі сваёй краіны, але, каб стаць сапраўднымі салдатамі, ім яшчэ спатрэбіцца шмат часу, волі і мужнасці.

**Валерый КАВАЛЕНКА**



Фота Віталя ГІЛЯ

*Салдат прысягае на вернасць Беларусі*

## Снизилось производство ПРОДУКТОВ ПИТАНИЯ

**В первом полугодии нынешнего года в Беларуси снизилось производство ряда социально значимых продуктов питания.**

По данным Министерства статистики и анализа, производство колбасных изделий по сравнению с первым полугодием 2000 года уменьшилось на 2,1 процента (в т.ч. вареных колбас – на 6 процентов, полукопченых – на 27,1, копченостей – на 21,5), цельномолочной продукции (в пересчете на молоко) – на 4,2 процента, кондитерских изделий – на 4,3, соли – на 7,5, безалкогольных напитков – на 11,1, круп – на 13,2, хлеба и хлебобулочных изделий – на 14,6 процента, растительного масла – на 17,1 процента. Настоящий обвал произошел в производстве макаронных изделий: их выпущено в 2,3 раза меньше (42,6 процента) от уровня прошлого года.

Кроме того, на 8 процентов снизилось производство водки и ликеро-водочных изделий, на 16,9 процента – пива, на 40 процентов – коньяка, на 76,2 процента (в 4,2 раза) – винных плодовых напитков, на 82,4 процента (в 5,7 раза) – винных виноградных напитков.

В легкой промышленности объем производства в первом полугодии сократился на 5,6 процента. Выпуск тканей снизился на 10,8 процента (в т.ч. шерстяных – на 38,6 процента), трикотажных изделий – на 24 (в т.ч. для детей – на 29,4), обуви – на 17,8 (в т.ч. для детей – на 27,7), чулочно-носочных изделий – на 15,7 (в т.ч. для детей – на 20,9).

Производство бытовых часов уменьшилось на 3,8 процента, электроутюгов – на 5,8, телефонных аппаратов – на 6,8, стиральных машин – на 11,9, мотоциклов – на 47,8 процента.

**Дмитрий ВЛАСОВ**

## ПА НОВЫХ ПРАВІЛАХ У ПОЛЬШЧУ

**З першага жніўня ўнесены змены ў правілы ўезду ў рэспубліку Польшча.**

Шматразовая віза знаходжання ў Польшчы цяпер абмяжоўваецца 90 днямі (раней – 6 месяцаў). Для транзітнага праезду праз гэту краіну ўведзена двухразовая віза.

Без зменаў застаўся парадак уезду ў Польшчу па ваўчарах ці пры наяўнасці адпаведнага штампу ў пашпарце.

**Юрка КАРПАЧ**

## НАПАДЕНИЕ НА ПРАВОЗАЩИТНИКА

**На одного из активистов общественной организации "Правовая помощь населению" и общественной комиссии по расследованию исчезновения известных белорусских политиков Сергея Стрижонка поздно вечером 31 июля в Минске было совершено хулиганское нападение.**

На Стрижонка напали в подъезде дома, где он проживает. Неизвестные – а их было, как минимум, трое – неожиданно брызгнули ему в лицо каким-то газом и стали избивать кулаками и дубинкой. По словам Стрижонка, на некоторое время он потерял сознание. Около полуночи ему удалось добраться до квартиры, его жена вызвала скорую помощь и милицию. Стрижонка с кровоподтеками на лице и теле завезли в больницу и оказали необходимую помощь.

Сергей Стрижонок как член "Правовой помощи населению" и общественной комиссии по расследованию исчезновений Юрия Захаренко, Виктора Гончара, Анатолия Красовского и Дмитрия Завадского участвовал в нескольких пикетах оппозиции, за что привлекался к административной ответственности. В ходе последнего суда, по его словам, к нему подошли сотрудники ОМОНа и открыто угрожали, о чем он поставил в известность прокуратуру.

**Геннадий БАРБАРИЧ**

## МАССОВОЕ ОТРАВЛЕНИЕ ДЕТЕЙ

**83 подростка из летнего лагеря отдыха "Вербы" Каменецкого района Брестской области госпитализированы 1 августа с диагнозом "пищевая токсикоинфекция".**

Как сообщили БелаПАН в пресс-службе Управления МЧС по Брестской области, 12-13-летние школьники отравились предположительно фруктами.

Сейчас на месте ЧП работает комиссия из представителей областного центра гигиены и эпидемиологии. Как утверждают врачи, их состояние – средней и легкой степеней тяжести.

**БелаПАН**

## МИЛИЦИЯ ИЗЪЯЛА оргтехнику у молодежи

**Сотрудники милиции Центрального РУВД изъяли оргтехнику в квартире по улице Заславской в Минске, где находятся офисы 4 демократических молодежных организаций: "Молодежь Объединенной гражданской партии", "Молодые социал-демократы", "Молодежный христианско-социальный союз", "Белорусское объединение молодых политиков", а также штаб мобилизационной кампании "Выбирай!"**

Примерно в 16 часов двое сотрудников милиции попытались войти в квартиру, заявив о том, что хотят проверить паспорта находящихся там людей и осмотреть комнаты. Однако двери им не открыли, сославшись на то, что отсутствуют хозяева квартиры. Тогда милиционеры отключили электричество и попытались ногами выбить дверь. Однако прекратили свои действия, когда прибыли журналисты. По словам молодых людей, у сотрудников милиции не было никакого ордера на обыск.

Однако через полтора часа к дому прибыла опергруппа Центрального РУВД в составе 6 человек, которая предъявила все необходимые документы и начала изымать оргтехнику. В результате были изъяты два компьютера, ксерокс и факс.

**Геннадий БАРБАРИЧ**

## СКЛАДЫ ПЕРЕПОЛНЕНЫ, предприятия убыточны

**В первом полугодии нынешнего года запасы готовой продукции на складах белорусских промышленных предприятий возросли с 62,8 до 67,5 процента от среднемесячного объема производства. Они достигли 742,6 млрд. рублей (537 млн. долларов США в пересчете по официальному курсу на 1 июля).**

По информации Министерства статистики и анализа, больше всего запасов – в машиностроении и металлообработке (118,6 процента от среднемесячного объема производства), легкой промышленности (116), лесной, деревообрабатывающей и целлюлозно-бумажной промышленности (86,5), а также в промышленности стройматериалов (74,4).

Складские запасы кузнечно-прессовых машин превышают среднемесячный объем производства в 4,4 раза, металлорежущих станков – в 2,3 раза, радиоприемных устройств – в 2,6 раза, льняных тканей – в 3,5 раза, шерстяных – в 3,2 раза, мотоциклов – в 2 раза, тракторов – в 1,9 раза, круп – в 3,9 раза.

В январе – мае удельный вес убыточных промышленных предприятий составил 33,2 процента (в январе – мае 2000 года – 27,4 процента). Больше всего убыточных предприятий было в промышленности стройматериалов (55,4 процента), легкой (49,9) и топливной (42,5) промышленности. Рентабельность промышленной продукции за этот период составила 12,6 процента против 13,7 процента в январе – мае прошлого года. Наименее рентабельные отрасли – промышленность стройматериалов (0,8 процента), черная металлургия (7,1), легкая (7,5) и пищевая (8,4) промышленность.

Среди рентабельных предприятий лишь 3 процента имели рентабельность 50 и более процентов, 7,2 процента – от 30 до 50 процентов, 11 процентов – от 20 до 30. В то же время рентабельность от 0 до 5 процентов имели 29,3 процента предприятий, от 5 до 10 процентов – 22, от 10 до 20 – 27,5.

**БелаПАН**

## ЕВРО ПРИДЁТ В БЕЛАРУСЬ

**С 1 января 2002 года в странах Европейского валютного союза в обращение вводятся банкноты и монеты евро. Спустя два месяца новая валюта станет единственным законным платежным средством на территории Австрии, Бельгии, Германии, Греции, Ирландии, Испании, Италии, Люксембурга, Нидерландов, Португалии, Финляндии и Франции.**

Как сообщает управление информации Национального банка Беларуси, наиболее распространенной иностранной валютой вышеперечисленных стран в Беларуси является немецкая марка. Однако большинство белорусских банков планируют осуществлять обмен у населения национальных денежных единиц всех вышеназванных стран на евро. При этом предполагается взимать минимальные комиссионные на уровне затрат, связанных с получением новых банкнот. Кроме этого, обмен будет осуществлен и через систему вкладных счетов, которые были открыты в белорусских банках в валютах стран Евросоюза.

Нацбанк сообщает, что Европейским центральным банком разрешен ввоз евро в кредитные учреждения Беларуси после 1 декабря 2001 года.

Срок обмена наличной национальной валюты на евро в центральных банках стран Европейского валютного союза варьируется от четырех до 20 лет, а в ряде стран он вообще не ограничен.

**Юрий АЛЕКСЕЕВ**

# КТО СКОЛЬКО СТОИТ?

**Гродненская областная избирательная комиссия подвела итоги сбора подписей инициативными группами претендентов.**

На Гродненщине работали 15 инициативных групп по сбору подписей за выдвижение кандидатами в президенты. За Александра Лукашенко в области было сдано 54.631 подпись, из них действительными признаны 54.529, за Семена Домаша собрано 27.763, действительными признано 27.117, инициативная группа Сергея Калякина сдала 13.695 подписей, из них действительными признаны 12.250, за Владимира Гончарика собрано 7.989 подписей, действительными признаны 7.765, за Зенона Позняка – 5.145, из них действительных оказалось 4.404, за Павла Козловского – 4.930, из них действительных 4.525, за Константина Кононовича – 709, действительных 664, за Виктора Терещенко – 965, действительных 99, за Леонида Калугина – 2.325, действительных 1.250, за Леонида Синицына – 6.262, действительных 5.310, за Сергея Скребца – 3.158, действительных 3.092, за Михаила Маринича – 1.749, действительных 888, за Александра Ярошука – 2.162, действительных 1.744, за Михаила Чигиря – 1.894, действительных 1.364.

**Павел МОЖЕЙКО**



